# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 10 (57) Кастрычнік 2011 г.

## Справа Бяляцкага: эстафэту вытворчасьці адпісак перахапіла пракуратура Менску




Актывісты Віцебшчыны, што абскарджвалі пастанову сьледчай Тацьцяны Касынкінай, якая вяла справу Алеся Бяляцкага, цяпер атрымліваюць масавыя адпіскі з пракуратуры Менску. Пра гэта паведаміў выданьню "За правы чалавека" праваабаронца зь Віцебску Павал Левінаў. Зьмест усіх адказаў актывістам, якія падпісаў намесьнік пракурора Менску Казімір Кежун, аднолькавы. У адказах гаворыцца: "Мера стрыманьня ў адносінах да Бяляцкага А.В. выбраная з улікам цяжару зьдзейсьненага злачынства і ўстаноўленых па справе абставінаў; падставаў для яе зьмены ня маецца".

Нагадаем, пасьля арышту кіраўніка праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага, у сьледчы орган, што вёў яго справу, зьвярнуліся сотні грамадзян краіны. Усе яны хадайнічалі аб вызваленьні вядомага праваабаронцы з-пад арышту пад іхнае асабістае паручальніцтва - такая магчымасьць зьмены меры стрыманьня прадугледжаная беларускім заканадаўствам. Аднак старэйшы лейтэнант Касынкіна адмовіла ў задавальненьні хадайніцтваў. Яна даслала кожнаму з заяўнікоў стандартны адказ, у якой так уцямна і не змагла патлумачыць, чаму абраная мера стрыманьня ў выглядзе зьмяшчэньня пад варту ў адносінах да Бяляцкага ня можа быць зьмененая.

Многія актывісты палічылі адказы Касынкінай фармальнымі адпіскамі. Яны зьвярнуліся у пракуратуру Менску са скаргамі на пастановы аб адмове ў задавальненьні хадайніцтваў, у якіх прасілі скасаваць гэтыя пастановы як незаконныя і неабгрунтаваныя. Аднак пракуратура адмовілася прызнаць аргумэнты заяўнікоў слушнымі. На думку намесьніка пракурора Менску, пастановы сьледчай УДФР Касынкінай зьяўляюцца "законнымі", "падставы для іх скасаваньня адсутнічаюць".

Павал Левінаў лічыць адказ, які ён атрымаў з пракуратуры, неабгрунтаваным. У ім старэйшы саветнік юстыцыі Казімір Кежун, як раней і сьледчая Касынкіна, ніяк не патлумачыў прычынаў, зь якіх Алесь Бяляцкі ня можа быць вызвалены пад асабістую заруку. На гэты адказ віцебскі праваабаронца напісаў скаргу на імя пракурора Менску.



# Зьмітра Дашкевіча зьмясьцілі ў ПКТ у Глыбоцкай калёніі



Лідэра "Маладога фронту" Зьмітра Дашкевіча зьмясьцілі ў памяшканьне камэрнага тыпу (ПКТ), адкуль палітвязень аднавіў ліставаньне. Ліст Зьмітра ягонай нявесьце, Насьце Палажанцы, праляжаў у Глыбокім тыдзень, перш як трапіў да адрасата. Цяпер Наста ведае, што Зьмітра перавялі з адзіночнай камэры ў ПКТ і што ён зноў атрымаў магчымасьць ліставацца зь сябрамі: "Ад яго прыйшлі два лісты, адзін зь якіх праляжаў у Глыбокім тыдзень. Піша, што ў яго ўсё ў парадку. Ён атрымаў нашу перадачу, таму цяпер нарэшце можа нармальна паесьці".

Зьмітра Дашкевіча перавялі ў калёнію ў Глыбокім з калёніі ў Горках, дзе вязень скардзіўся на жорсткае абыходжаньне зь ім адміністрацыі, якое параўноўваў з катаваньнем. Дарэчы, былы дэпутат Нацыянальнага сходу Сяргей Скрабец напісаў у міліцыю з гэтай нагоды заяву, у якой прасіў праверыць скаргу Дашкевіча. 24 кастрычніка Сяргей Скрабец распавёў "Свабодзе" пра адказ, які атрымаў з Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў МУС адносна гэтай праверкі.

У яе правядзеньні адмовілі. На якой падставе? Пішуць, што "службовыя асобы ня маюць права разгалошваць зьвесткі пра асабістае жыцьцё вязьняў бязь іх дазволу". Гэта значыць, яны нібыта безь ягонай згоды ня маюць права распавесьці пра тое, каталі Дашкевіча ці не".

# Таццяна Севярынец памалілася за Дашкевіча каля муроў турмы

22 кастрычніка маці палітвязьня Паўла Севярынца наведала Глыбокае. Пасьля сустрэчы зь мясцовымі актывістамі БХД Таццяна Севярынец выказала жаданьне памаліцца каля муроў турмы, дзе цяпер адбывае свой тэрмін палітвязень Зьміцер Дашкевіч.



Разам зь мясцовымі актывістамі яна наведала тое месца, дзе калісьці стаяў храм сьв. Пятра і Паўла. Гэты храм быў зьнішчаны ў хуткім часе пасьля вайны. Цяпер па тэрыторыі храма праходзіць агароджа турмы, якая пабудаваная з цэглы былой сьвятыні. Там Таццяна Севярынец прачытала малітву за палітвязьня Зьмітра Дашкевіча. Пасьля малітвы яна ўдарыла ў звон, які ўстаноўлены на месцы былога храму.

# Павал Севярынец адмовіўся прызнаць віну ўзамен на перавод у Віцебск

Сустаршыня аргкамітэту партыі БХД палітвязень Павал Севярынец адмовіўся пісаць заяву аб пераводзе на «хімію» па месцы жыхарства. Ён адбывае два гады «хіміі» у вёсцы Куплін Пружанскага раёну. Паводле палітвязьня, яму абяцалі зьмяніць месца адбыцьця пакараньня, калі б ён прызнаў віну:

«Кажуць, адну паперку падпішыце — і паедзеце да хаты. Я не пагадзіўся. Тады прапанавалі павініцца хаця б на словах, перад гэтак званай радай выхавацеляў. Але я ўсё роўна не пагадзіўся. Навошта? Калі я ў КДБ не прызнаваў сябе вінаватым на допытах, чаму тут буду вініцца? Людзі і ў горшых умовах трымаюцца. Сказаў: не».

Павал Севярынец працуе на складзе аўтазапчастак ў фэрмэрскай гаспадарцы «Бардо»: прымае і выдае запчасткі, афармляе на іх дакумэнты. Працоўнае месца палітвязьня — у вялікім ангары, дзе раней знаходзіліся танкі савецкай танкавай дывізіі. «Зараз усё халадней, але праца не дае замерзнуць», — кажа Севярынец.




Па суботах ці нядзелях да вязьня прыяжджаюць госьці, зь якімі ён сустракаецца ў альтанцы перад камэндатурай: «Вось і сёньня абяцалі прыехаць мае адзінадумцы зь Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі». Шанцы на сваё датэрміновае вызваленьне ў блізкім часе Павал ацаніў як 50 на 50. Ён лічыць, што раней за яго, зь меркаваньняў стану здароўя, могуць вызваліць каардынатара «Эўрапейскай Беларусі» Зьмітра Бандарэнку.

# ПРАВААБАРОНЦЫ ПРЫЗНАЛІ АЛІНЕВІЧА, ДЗЯДКА І ФРАНЦКЕВІЧА ПАЛІТЫЧНЫМІ ЗЬНЯВОЛЕНЫМІ

Праваабарончы цэнтар "Вясна" і Беларускі Хельсінскі Камітэт прызналі Ігара Аліневіча, Мікалая Дзядка, Аляксандра Францкевіча палітычнымі зьняволенымі дзеючага ў Беларусі рэжыму. Да такой высновы праваабаронцы прыйшлі на падставе адмыслова праведзенага аналізу так званай "Справы анархістаў".



Паводле заключэньня БХК, гэтае рашэньне грунтуецца на падставе наступных высноваў:

1. Папярэдняе следзтва па крымінальнай справе суправаджалася сур'ёзнымі працэсуальнымі парушэньнямі, у тым ліку правоў асуджаных. Сярод іх: адвольныя затрыманьні, парушэньне тэрмінаў і працэдураў затрыманьня, устаноўленых Крымінальна-працэсуальным кодэксам Беларусі, парушэньне права на абарону, парушэньне прынцыпу прэзумпцыі невінаватасьці і інш. Затрыманне І. Аліневіча ў г. Маскве і яго дастаўленьне ў СІЗА КДБ у г. Менск ажыцьцяўляліся з грубымі парушэньнямі устаноўленых працэдураў, у тым ліку працэдуры экстрадыцыі грамадзян з тэрыторыі Расейскай Фэдэрацыі ў Беларусь.

Асуджаныя І. Аліневіч, М. Дзядок, А. Францкевіч падчас судовага працэсу заяўлялі аб тым, што ў дачыненьні да іх падчас папярэдняга следзтва выкарыстоўваліся незаконныя дзеяньні: псыхалягічны ціск і катаваньні. Аб прымяненьні да іх катаваньняў заявілі ў судовым разглядзе і шэраг сьведкаў, якія адмовіліся ад сваіх паказаньняў, дадзеных імі на папярэднім сьледзтве (К. Коўка, А. Жынгероўскі, І. Багачак, А. Бугаёў, С. Сьлюсар). Гэтыя абставіны ў ходзе папярэдняга сьледзтва і судовага разгляду з належнай паўнатой не правяраліся і ім не была дадзеная прававая ацэнка.

2. У ходзе судовага працэсу парушаўся прынцып роўнасьці бакоў па прадстаўленьні доказаў. Грубыя парушэньні правоў асуджаных даюць падставу сьцьвярджаць, што разгляд справы ў судзе ня быў аб'ектыўным, поўным і ўсебаковым, а вынесены прысуд — неабгрунтаваны і незаконны. Вынесены пры такіх абставінах прысуд павінен быць адменены, а справа — накіраваная на новы разгляд.

3. Зьмяшчэньне пад варту І. Аліневіча, М. Дзядка, А. Францкевіча, іх асуджэньне да такіх доўгіх, відавочна неадэкватных тэрмінаў пазбаўленьня волі, пры несправядлівым разглядзе "відавочным чынам зьвязана з палітычнымі матывамі ўладаў".

4. РПГА "Беларускі Хельсінскі Камітэт", экспэрты праваабарончай супольнасьці Беларусі па выяўленых аб'ектыўных крытэрах лічаць Ігара Аліневіча, Мікалая Дзядка, Аляксандра Францкевіча, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўленьня волі, палітычнымі зьняволенымі дзеючага ў Беларусі рэжыму.

# Віцебскія актывісты патрабуюць вызваліць палітвязьняў




Дэмакратычныя актывісты Віцебску далучыліся да акцыі салідарнасьці з палітвязьнямі, што адбылася 21 кастрычніка ў розных рэгіёнах краіны. Некалькі чалавек выйшлі да гандлёвага дому "Беларусь" з партрэтамі асуджаных за "Плошчу". Сярод тых, хто ўзяў удзел у акцыі - Уладзіслаў Варанецкі (на фота - справа), кіраўнік мясцовага штабу кандыдата ў прэзыдэнты Андрэя Саньнікава.

Па заканчэньні мерапрыемства плякаты з выявамі палітзьняволеных і заклікам "Свабоду палітвязьням!" былі расклееныя ля ўваходу ў гандлёвы цэнтар. Акцыя ў Віцебску прайшла без затрыманьняў.

# Партрэты палітвязьняў у Воршы

22 кастрычніка аршанскія актывісты распаўсюдзілі па горадзе некалькі дзясяткаў улётак з партрэтамі палітвязьняў. Пасьля ў царкве Сьвятога Леаніда сябры аргкамітэту па стварэньні Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі замовілі малітву за вызваленьне тых, хто цяпер за кратамі з палітычных прычынаў. "На жаль, многія жыхары Воршы ня ведаюць, што да гэтага часу ў беларускіх турмах знаходзяцца палітзьняволеныя. Таму цікаўнасьць да ўлётак з партрэтамі была вялікая," - распавёў сябар аргкамітэту па стварэньні БХД Яўген Анішчанка.




Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.